РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

## накарміць немаўлятка

Быць дзіцем прыемна: мінімум праблем і максімум задавальнення. А вось як накарміць любімае дзіця — праблема ўжо чыста бацькоўская. У старыя добрыя часы выбіраць матулям асабліва не было з чаго — разнастайнасцю малочныя сумесі айчыннай вытворчасці, на жаль, не вызначаліся. Ці на шчасце не вызначаліся? Таму што цяпер вочы ад шматлікіх сумесяў, дзіцячых каш, шматкоў і пюрэ ў яркіх каробачках, слоічках, бутэлечках і пакеціках літаральна разбягаюцца, а вось фінансавыя магчымасці маладых бацькоў «раскошна» жыць нярэдка не дазваляюць.

Бадай, самай даступнай па цане для нашага спажыўца на сённяшні дзень з'яўляецца прадукцыя харвацкай і славенскай вытворчасці. Так, дзіцячае харчаванне (гаворка ідзе аб прадукцыі вагой 250—300 г) «Фруталіна», «Кексаліна», «Грысаліна», «Карамеліна», «Медаліна экстра» (Харватыя) адносна прымальнае для бацькоўскага кашалька, бо каштуе 22—23 тыс. рублёў, а вітамінныя шматкі з манных круп з ванілінам ці са смакам карамелі (Славенія) абыдуцца трошкі даражэй — у 26 тыс. рублёў. А вось фінская, галандская і аўстрыйская прадукцыя трапіць у рацыён ужо далёка не кожнага немаўляці, таму што цэны на яе «кусаюцца»: малочныя сумесі «Пілці» — 63 тыс. руб., «Туцелі» — 53 тыс. руб., «Сімілак» — 62—75 тыс. руб.; гатовы малочны крэм «Фарын лактэ» — 47 тыс. руб., разнастайныя сухія малочныя кашы (фруктовая, рысавая, шакаладна-арэхавая і г. д.) — 78 тыс. руб. Але нават на гэтым фоне здзекам над нашым пакупніком выглядаюць малочныя сумесі аўстрыйскай вытворчасці «НіРР-1» і «НіРР-2», таму што іх цана — 135—158 тыс. руб. — ніяк з «дзіцячым апетытам» не стасуецца.

Але калі бацькі багатыя і любоў іх бязмежная (зразумела, у матэрыяльным плане), то яны цалкам у стане напаіць сваё дзіця нават растваральным швейцарскім гарбатным напоем (з зёлак, з рамонкаў ці з вітамінам С) «усяго» за 80 тыс. рублёў. Божа, так хочацца самому яго пакаштаваць... А яшчэ вельмі хочацца паспытаць, напрыклад, кураняці з рысам і агароднінай (31 тыс. руб.), цяляцінкі з агароднінай і бульбай (29 тыс. руб.), рысавай малочнай кашы з мёдам і карыцай ці бананавай малочнай кашы з мёдам і рысам па цане 26 тыс. руб. Ды і без вітамінаў заходнія імпарцёры нашых дзяцей не пакінуць: бадай, пюрэ з шыпшыны, чарнічна-малінавае, з ёгуртам і манга (Фінляндыя, цана — 14—16 тыс. руб.), з бананам, з вяршкамі, з агароднінай ці з абрыкосамі (Аўстрыя, 25—26 тыс. руб.) не пакінуць абыякавымі нават дарослых. Уся гэта прадукцыя прадаецца ў слоіках па 190—220 г.

На фоне такога багацця, а галоўнае разнастайнасці імпартнай прадукцыі, прадукцыя айчыннай вытворчасці неяк губляецца. Усё радзей можна сустрэць на паліцах нашых магазінаў любімыя раней дзятвой малочныя сумесі «Малыш» і «Алеся». Ці не з-за іх таннасці? Прычым, не сакрэт, што многія гаспадары (як гэта ні па-кашчунску прагучыць) выкарыстоўваюць іх для кармлення сваіх хатніх жывёл. Праўда, з'яўляецца новая прадукцыя АТ «Беллакт» (г. Ваўкавыск), напрыклад, рысавая, грэцкая, аўсяная і г. д. мука для дзіцячага харчавання, і цэны на яе цалкам задавальняюць, толькі вось на фоне заходніх упаковак яна неяк губляецца.

Калі трэба карміць дзіця, пра сябе, як правіла, забываеш. А прабегшыся вачыма па прылаўках магазінаў, пачынаеш ясна разумець, што разлічваць на грошы, якімі дзяржава сёння «падтрымлівае» маладых матуль, не варта. Але ж есці хочацца не толькі дзецям...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ... зрабіць апошні здымак у школьны альбом

У школах Беларусі набліжаюцца да завяршэння экзамены, і з кожным днём усё бліжэй і бліжэй выпускны баль — апошняе школьнае свята, якое ставіць лагічную кропку ў шматгадовай адысеі па краіне ведаў колішніх нясмелых першакласнікаў, а цяпер практычна дарослых людзей. Гэты дзень у жыцці кожнага чалавека — адно з нямногіх святаў, што прыгадваецца з аднолькавай цеплынёй і хваляваннем і праз пяць, і праз дзесяць, і праз дваццаць гадоў.

Зразумела, з цягам часу нейкія падрабязнасці і гэтай цудоўнай пары, і самога свята пакрысе забываюцца, з памяці знікаюць твары і імёны... Таму няма лепшага сродку, каб абудзіць мінулае, чым школьныя фотаздымкі. Вядома, што рэаліі сённяшняга жыцця такія, што бацькам выпускнікоў хоць бы справіць сваім нашчадкам сам баль, але... Цяжкасці ў рэшце рэшт адыдуць у мінулае, а вось прыемныя імгненні можна аднавіць, вярнуўшы назад, нібы кінастужку. Таму вельмі раю — прынясіце сваім дзецям гэтую радасць (самі яны ацэняць яе значна пазней).

Зрэшты, гэта не такія ўжо вялікія выдаткі. Заўсёды знойдзецца выпускнік, або нехта з бацькоў, хто валодае азамі фатаграфіі. Некалькі каляровых плёнак па 40—90 тысяч рублёў на ўсіх — і потым ваша дзіця зможа само заказаць здымкі, якія найбольш спадабаліся (адзін экземпляр фармату 9х13 абыдзецца прыкладна ў 5 тысяч рублёў). Калі дазваляюць сродкі, сабраныя на свята, можна запрасіць і больш прафесіянальна падрыхтаванага ў гэтым плане чалавека (дастаткова пагартаць любую рэкламную газету). За паслугі ён возьме прыкладна 15 долараў, а калі пашанцуе — яшчэ і зробіць здымкі фармату 9х13 на дзве тысячы танней, чым у міні-лабараторыях. Калі ж свята плануецца па прынцыпу «гуляць дык гуляць» (як для дзяцей, так і дарослых) — тут наогул няма чаго саромецца і трэба найперш звяртацца ў знакаміты «Выпускнік», што на Партызанскім праспекце. Тут вам змогуць афарміць прыгожыя фотаальбомы па цане ад 60.000 да 400.000 рублёў (у якіх будзе ад 2 да 200 здымкаў).

Яшчэ адзін новы від паслуг — відэаздымкі, якія ўжо паспелі добра ўкараніцца ў нашым жыцці з той ці іншай нагоды або наогул без яе. Калі вы вырашылі здымаць відэафільм, лепш за ўсё звяртацца на «Сувенір-фільм» ВА «Вілія». За адну гадзіну экраннага часу з кліентаў тут бяруць 27 долараў, але ўзамен прапануюць не аматарскую стужку, а зманціраваны фільм са спецэфектамі, зробленымі на камп'ютэры. Дарэчы, тут жа потым выпускнікі змогуць нарабіць сабе копій — гэтая паслуга ацэнена ў 18 тысяч рублёў за гадзіну. Калі больш падабаюцца прыватнікі, калі ласка, у іх тарыф наступны: 30 долараў за гадзіну, 80 долараў за ўсю касету. Зрэшты, можна знайсці і больш танныя паслугі ці наогул абысціся здымкамі «па знаёмству». Тут ужо, як кажуць, кожны сам сабе гаспадар. Галоўнае ўсё ж такі не ў грашах і розных «наваротах» — галоўнае, каб засталася памяць аб школе, сябрах, настаўніках. Каб нават шыкоўна зроблены фотаальбом не збіраў гадамі пыл недзе ў шафе, а раз-пораз гартаўся і выклікаў прыемныя ўспаміны...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ...афарміць замежны пашпарт

Калі пашчасціць і вас не адправяць перапісваць анкеты, рыхтуйце квітанцыю аб аплаце дзяржпошліны за атрыманне пашпарта. Уласна кніжачка, яе афармленне каштуе адну мінімальную зарплату. У залежнасці ад таго, на колькі гадоў афармляецца выезд, і вызначаецца канчатковая цана пашпарта. Кожны год ацэньваецца таксама ў 1 мінімальную зарплату, г. зн. у 100 тысяч рублёў, а афармляць пашпарт можна на тэрмін да пяці гадоў. Так што магчымасць паехаць за мяжу на працягу двух гадоў каштуе сёння 300 тысяч рублёў, пры ўмове, што пашпарт вы атрымліваеце ўпершыню.

Абавязковым дадаткам, вядома ж, з'яўляюцца фотаздымкі. Чорна-белыя абыдуцца ў 25 тысяч 600 рублёў, шэсць каляровых адлюстраванняў каштуюць 34 тысячы 700 рублёў. Робяцца і тыя і другія за паўдня. Пасля таго, як усе неабходныя паперкі ў вас забяруць, расслабцеся — болей ад вас нічога не залежыць. Колькі будуць рабіць пашпарт, адказаць няпроста. Тэрмін можа расцягнуцца да паўтара месяца. Хаця ў правінцыі, напрыклад, замежны пашпарт ужо праз тры тыдні можна атрымаць. Дарэчы, калі пойдзеце забіраць дакумент, вазьміце з сабой «сярпасты-малаткасты». Там зробяць пазнаку аб выдачы замежнага пашпарта.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

ГАРАЧЫ ТЭЛЕФОН

## «ПРОЗВІШЧА НЕ НАЗЫВАЮ. БАЮСЯ СКАРАЧЭННЯ...»

**На «гарачы тэлефон» «Звязды» — 68-28-72** — пазваніла жанчына з калгаса імя Горкага Мядзельскага раёна. Прозвішча — Ананіч, інвалід ІІ групы. Мы ўжо аднойчы пісалі пра яе званок. Тады зарплату яе мужу ў калгасе выдалі. Цяпер іншы клопат — атрымаць за красавік.

З тае ж гаспадаркі пазваніла (таксама інвалід) спадарыня Куневіч. І ёй, хаця вялікая патрэба набыць лекі, грошы вымольваць у калгасе даводзіцца ледзь не на каленях.

З Валожынскай лясной машынна-меліярацыйнай станцыі пазваніў рабочы. Прадставіцца не згадзіўся. Хаця і запэўніў, што звоніць ад імя калектыву (усяго на станцыі працуе каля 80 чалавек). Растлумачыў: «Прозвішча не называю. Баюся скарачэння...» Грошы на прадпрыемстве не выплачваюць, пачынаючы з сакавіка. Ці, правільней, за сакавік яшчэ не плацілі. Праўда, збіраюцца на станцыі выдаць аванс. Невядома, які аванс, у якім памеры? І чаму аванс, калі зарплату не плацяць?

Да «гарачых» званкоў дадаўся ліст. Напісалі яго жыхары вёскі Рабуць Вілейскага раёна (усяго трынаццаць подпісаў).

Цытуем: «...за мінулыя пяць месяцаў гэтага года мы не атрымалі грашовай дапамогі на дзяцей і датацыі на харчаванне. Мы звярталіся ў праўленне калгаса, Вілейскі райвыканкам. Усюды раяць увайсці ў іх становішча. Хто ж увойдзе ў наша становішча? Працуем усе ў калгасе «Бальшавік» і не атрымліваем заработнай платы з сёлетняга сакавіка. У кожнага з нас ёсць дзеці. А іх трэба і накарміць, і апрануць, і хутка давядзецца адпраўляць у школу...»

***Ліст з вёскі Рабуні прымушае вось над чым задумацца: а хоць у адным выканкоме ці атрымліваюць зарплату з затрымкай на тры-чатыры месяцы? Мусіць, не. Іначай зразумелі б становішча тысяч і тысяч людзей, якія толькі са спадзяваннем на нейкі заўтрашні светлы дзень і працуюць.***

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

## Што для сям'і лепш: мець пастаянную зарплату ці атрымліваць дзяржаўную дапамогу на дзяцей?

**На пытанні нашых чытачоў адказвае галоўны інспектар аддзела сям'і Міністэрства сацыяльнай абароны Таццяна ШАМЕТАВЕЦ.**

**— Таццяна Васільеўна, да нас часта звяртаюцца жанчыны са скаргамі: заработная плата за некаторыя месяцы мінулага года атрымана зусім нядаўна, а ў сукупны даход сям'і ў пачатку сёлетняга ўключалі ўсю заработную плату, у тым ліку і неатрыманую. А ад сукупнага даходу, як вядома, залежыць налічэнне дапамогі на дзяцей. У выніку многія не атрымлівалі доўгі час ні зарплаты, ні дапамогі.**

**Скажыце, хіба гэта нармальна?**

— У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку вылічэння сукупнага даходу на члена сям'і, у даход яе ўключаецца заработная плата, налічаная за адпрацаваны час. У сітуацыі, калі прадпрыемствы, арганізацыі не заўсёды своечасова яе выплачваюць, магчыма, у Палажэнне будуць унесены змены, але гэта справа будучыні.

**— Цяпер не рэдкасць: маці не працуе, а дапамогу на дзяцей ва ўзросце ад трох да шасці гадоў выплачваюць па месцы работы бацькі. Але калі раптам і бацька страціць работу, ці будзе выплачвацца дапамога і з якіх сродкаў?**

— Такая сям'я можа звярнуцца па дапамогу ў органы сацыяльнай абароны па месцы жыхарства. Там, зыходзячы з канкрэтных абставінаў, будзе прынята адпаведнае рашэнне. Напрыклад, абавязкова ўлічаць прычыну звальнення: па ўласнаму жаданню ці па скарачэнню штату. Калі дапамога будзе назначана, дык выплата пойдзе за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

**— Чытачка з Мінскай вобласці зарэгістравана як беспрацоўная. Увесь гэты час атрымлівае дапамогу на дзіця. Яе хвалюе, ці будзе яна па-ранейшаму мець гэтую дапамогу, калі тэрмін рэгістрацыі на біржы скончыцца?**

— Калі чытачка прадставіць даведку з Цэнтра занятасці аб тым, што ёй не была прадастаўлена работа, дапамогу будуць выплачваць.

**— Маці-адзіночка атрымлівае дапамогу на дзіця. Яна цікавіцца, ці павінны ёй, акрамя гэтай дапамогі, плаціць яшчэ і як маці-адзіночцы?**

— Асобнай выплаты маці-адзіночцы няма. Але да дапамогі на дзіця належыць надбаўка ў памеры 25 працэнтаў.

**— Многія жанчыны лічаць, што ёсць закон, які дазваляе ім знаходзіцца ў водпуску па догляду за дзіцем да дасягнення ім шасцігадовага ўзросту. Пры гэтым дапамога па догляду за дзіцем з трохгадовага ўзросту не выплачваецца, але месца работы захоўваецца.**

— Такі водпуск заканадаўствам не прадугледжаны. Водпуск па догляду за дзіцем устаноўлены да дасягнення ім трохгадовага ўзросту.

**Падрыхтавала да друку
Наталля ДОЎНАР,
юрыдычны кансультант «Звязды».**

ТРЫБУНА ДЭПУТАТА

## ПАРЛАМЕНТ РАСПРАЦОЎВАЕ КАНЦЭПЦЫЮ ЭКАНАМІЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ

**Карэспандэнт «Звязды» размаўляе са старшынёй камісіі Вярхоўнага Савета па эканамічнай палітыцы і рэформах Васілём ШЛЫНДЗІКАВЫМ**

**(Заканчэнне. Пачатак у №156)**

**— А што ўвогуле выканана з гэтай праграмы?**

— Выканана тая частка манетарысцкай палітыкі, звязаная з рэгуляваннем фінансава-грашовых адносінаў. Прычым выканана яна такім чынам, што прадпрыемствы засталіся без абаротных сродкаў. Да гэтага прывяло жаданне дасягнуць хуткіх вынікаў. А стабільны курс рубля разарыў яшчэ квітнеючыя ў 1994 годзе лепшыя прадпрыемствы рэспублікі... Уласна кажучы, тое, што мы прапаноўваем, з'яўляецца ў пэўнай ступені паўтарэннем палажэнняў той антыкрызіснай праграмы, толькі больш дэталізаванае.

**— Скажыце, калі ласка, а чаму прапаноўваецца менавіта форма парламенцкіх слуханняў?**

— Каб было лягчэй высветліць для сябе, што мы ў рэшце рэшт хочам. Лёгка крытыкаваць, а вось прапануйце... Фракцыя камуністаў, як правіла, сабатуе прыняцце рыначных законапраектаў, але хто ім перашкаджае ўнесці свае прапановы ў тую ж канцэпцыю стабілізацыі?

**— Прэзідэнт Лукашэнка, гаворачы аб марудласці рэформаў у Беларусі, падкрэсліваў, што людзі не ўспрымаюць ні прыватызацыі, ні прыватнай уласнасці на зямлю, ні некаторых іншых важных састаўных частак эканамічнай рэформы... Скажыце, робячы свае прапановы, вы ўлічваеце гэты фактар, чаго жадае наша насельніцтва, а чаго не?**

— Вядома. Таму і прапаноўваюцца парламенцкія слуханні. Было б вельмі добра, каб людзі маглі па тэлебачанні паглядзець гэтыя пасяджэнні. А ў канчатковым выніку іх меркаванні і складваюцца з таго, якую яны інфармацыю атрымліваюць, якая прапаганда дзейнічае. Калі людзей увесь час пужаць загніваючым імперыялізмам, а ў той жа час тыя, хто пужае, не супраць выехаць туды, у гэты капіталізм, хаця б на некалькі дзён... Трэба ж і народу паказаць, як жыве тое грамадства, чаму б не паказаць, як адбываюцца рэформы ў той жа Польшчы, як жыве паляк, і паспрабаваць растлумачыць, чаму так адбылося, што ў Польшчы сярэдняя заработная плата каля 300 долараў, а не так даўно палякі натоўпамі ездзілі да нас гандляваць... А чаму мы, як тлумачаць, правільна ўсё робім, а ў нас усё горш і горш.

**— А ў чым усё-такі канкрэтна выражаецца такі надзвычай крызісны стан нашай эканомікі паводле той інфармацыі, якою вы валодаеце?**

— Так, крызіс паглыбляецца, і ніякіх прадпасылак для паляпшэння ў эканамічнай сітуацыі няма. Скарачаецца вытворчасць, расце крэдыторская запазычанасць, прадпрыемствы сталі неплацежаздольнымі, пазбавіліся абаротных сродкаў, згортваецца рынак, мы губляем ужо рынак і ў Расіі. Гэта адбываецца ў многім з-за штучна завышанай цаны на нашы тавары і вось гэтай неразумнай фінансавай палітыкі.

**— А чым можа ўсё гэта скончыцца для нас?**

— Дрэнна скончыцца: масавым беспрацоўем, сацыяльнай нестабільнасцю, хваляваннямі, але потым мы ўсё роўна будзем вымушаны праводзіць рэформы, ствараць гаспадарчыя механізмы новай эканомікі. Але мы губляем час. І чым больш мы яго губляем, тым больш складана будзе потым выбірацца з ямы.

**— А што будзе гэта азначаць у палітычным плане, на ваш погляд?**

— Ізаляцыя ад сусветнай супольнасці, таму што ніхто ў неэфектыўную эканоміку не будзе ўкладваць свае грошы. Ды і ўнутраной палітычнай нестабільнасцю.

**— Для таго, каб тыя меры, якія вы прапаноўваеце, выконваць, патрэбна ў першую чаргу агульная згода ў грамадстве.**

— Так, безумоўна, мы сёння павінны зразумець, што без такой згоды ўжо нельга. Заўтра мы ўдакладнім усе свае рознагалоссі, а сёння было б добра ўсвядомлена прыняць неабходныя рашэнні і сумесна правесці іх у жыццё.

**Размаўляў
Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Сумесная акцыя «Звязды» і БДФ «Дзецям Чарнобыля» «ВЫРАТАВАННЕ»*

## ВЫЙСЦЕ ШУКАЦЬ ТРЭБА ЎСІМ РАЗАМ. І Ў СПРАВЕ АЗДАРАЎЛЕННЯ, ПАДТРЫМКІ ХВОРЫХ ДЗЯЦЕЙ — ТАКСАМА

***Паважаныя чытачы, «Звязда» і Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» працягваюць сумесную акцыю па выяўленню і адпраўцы на аздараўленне за мяжу дзяцей, у першую чаргу з глыбінкі, якія атрымалі захворванні ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС і зусім альбо ў апошнія год-два не прайшлі аздараўлення.***

***Пішыце на адрасы: 220029, Мінск, вул. Старавіленская, д. 14, Беларускі дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» альбо 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, д. 10 а, «Звязда».***

Чытаючы пошту акцыі «Выратаванне», пераконваешся, што пішуць у першую чаргу людзі з глыбінкі, пішуць, як правіла, маці мнагадзетных сем'яў. Часта — удовы, якія засталіся без мужа з трыма альбо чатырма дзецьмі. Пішуць людзі, якія, як нам здаецца, павінны і ў сённяшні няпросты час адчуваць на сабе сацыяльнае спрыянне з боку мясцовых уладаў. Гэта, безумоўна, не значыць, што і цяжкія сем'і нехта павінен браць на ўтрыманне, але ж размова пра ўвагу, пра спрыянне ў тых ці іншых клопатах, пра элементарную падтрымку.

Адзіным водгукам з боку ўладаў стаў званок, а пасля і ліст з Валожынскага райвыканкома, ад загадчыка аддзела адукацыі Віктара Восіпавіча Гардынца. Закрануў яго за жывое надрукаваны ў «Звяздзе» ліст з Валожына, ад Тэрэзы Іванаўны Сліжык, маці пяцярых дзяцей. Віктар Восіпавіч паабяцаў, што па магчымасці будуць аказваць падтрымку. Але калі быць дакладным, то ў Валожыне ў аддзеле адукацыі не сядзяць склаўшы рукі.

Праўда, усім адразу дапамагчы не маюць магчымасці. Усяго ў раёне 585 мнагадзетных сем'яў, 461 няпоўная сям'я. Але ж вось сёлетнім летам па запрашэнню грамадскай арганізацыі ХСМЛ «Сетка міру» на аздараўленне ў Германію паедуць 5 груп дзяцей з забруджаных радыенуклідамі вёсак. Дарэчы, яшчэ раней БДФ «Дзецям Чарнобыля» дапамог СШ № 1 г. Валожына наладзіць сувязі з грамадскімі арганізацыямі Германіі, Аўстрыі, Японіі.

**26 чэрвеня з 12 да 14 гадзін рэдакцыя «Звязды» праводзіць «прамую лінію» па пытаннях акцыі «Выратаванне». На пытанні чытачоў адкажа старшыня Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы. Званіце ў час «прамой лініі» па тэлефонах: 32-38-21, 68-29-21.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Трагедыя ў Драздах: працяг тэмы

**Ініцыятыва «Звязды» па ўшанаванню ахвяр Вялікай Айчыннай вайны набывае грамадскі рэзананс. Здаецца, на гэты раз астанкі ахвяр вайны будуць ушанаваны належных чынам**

**Амаль што такім жа дэсантам, як і падраздзяленне пошукаўцаў, у Драздах, ля Кайдасавай гары высаджваюцца і журналісты. Расійскае тэлебачанне, Беларускае радыё, газетчыкі... Усе хочуць ведаць, што тут зараз робіцца. Ведаць, каб пасля расказаць чытачам, радыёслухачам, тэлегледачам.**

Ледзь ці не штодня наведваюцца да Кайдасавай гары і кіраўнікі, спецыялісты мясцовай птушкафабрыкі. Іх таксама грамадскі рэзананс прымусіў заўважыць даўно вядомыя пахаванні. Ужо добраўпарадкуецца і дарога, якая вядзе да месца трагедыі. Чакаюць тут самых высокіх наведвальнікаў. Не выключана — Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Чакаюць і перажываюць за тыя заўвагі, якія, магчыма, будуць выказаны. Дарэчы, адзін са спецыялістаў птушкафабрыкі заўважыў у гаворцы каля адкрытых траншэй:

— Вось дык нарабілася. Няёмка нам. Мы вінаватыя...

Зразумела, думаю, што хацеў сказаць чалавек. Але сёння, вінавацячы сябе, давайце пачнём адлічваць, як кажуць, з нуля. Не ўшанаваных, не пахаваных па-людску астанкаў — дзесяткі, сотні тысяч... Значыць, усім і па-новаму трэба агледзецца наўкола. Задумацца пра нашу ўласную і ўсенародную духоўнасць. Задумацца для таго, каб нешта зрабіць, нешта памяняць.

Новая траншэя, адкрытая ля Кайдасавай гары, адкрывае новыя і новыя факты. Відавочна, што ў пахаванні знаходзяцца астанкі чырвонаармейцаў. Знойдзены рэчы, якія належалі, маглі належаць толькі вайскоўцам, — біклага, партупея...

Уразіла і яшчэ адна знаходка — шматкі газеты «Чырвоная змена» ад 23 мая 1941 года. Газета аддрукавана ў друкарні «Звязды». Гістарычныя шматкі! Нехта прыхапіў з сабою — на расстрэл! — беларускую «маладзёжку». Той нумар, у якім расказваецца пра школьныя справы, набліжэнне выпускных экзаменаў, пра палітыку, нешта з міжнароднага жыцця... Знаходка, якая ўражвае, уводзіць нас у той далёкі і жахлівы час. Разглядзець яго, пазнаць яго, пакінуць у гісторыі. Пакінуць з намі час, пакінуць з намі яго сыноў, дачок. Калі адолеем прастору, здолеем прайсці праз бездухоўнасць, то выжывем, знойдзем сваю і дзяцей сваіх будучыню.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

* * *

19 чэрвеня адбылося пасяджэнне Мінскага райвыканкома, на якім прынята рашэнне аб стварэнні на месцы трагедыі ахоўнай зоны, узвядзенні помніка. Шэфства над пахаваннем узяла на сябе Мінская птушкафабрыка імя Н. К. Крупскай.

Між тым, раскопкі Кайдасавай гары працягваюцца, з'яўляюцца і ўсё новыя і новыя сведчанні аб ахвярах расстрэлаў. Сёння маюцца папярэднія даныя аб тым, што ў рове фашысты знішчылі і групу маракоў Пінскай флатыліі, якія нейкім чынам трапілі ў канцлагер у Драздах. Раней сведка расстрэлаў Л. Торлін расказваў аб расстрэлах пагранічнікаў. Спадзяюся, што гэта інфармацыя будзе праверана ў ходзе пошукавых работ. Сёння салдаты-пошукаўцы выйшлі на ўчастак пахавання, дзе ляжаць у асноўным ваеннаслужачыя. Магчыма, будуць знойдзены смяротныя медальёны і мы даведаемся імя хоць бы адной ахвяры.

«Звязда» і далей будзе расказваць аб ходзе пошукавых работ ля Кайдасавай гары і аб тым, як будзе ўвекавечана памяць ахвяр гэтай жудаснай трагедыі. На заканчэнне хачу нагадаць, што з першага дня пошукавых работ журналістам «Звязды» аказвала вялікую дапамогу ў асвятленні ходу раскопах рэдакцыя часопіса «Армія» Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**Мікалай КАЧУК.**

## *Грамадзяне Беларусі! Суайчыннікі!*

22 чэрвеня 1941 года агонь другой сусветнай вайны, якую развязалі германскія фашысты, дасягнуў межаў Савецкага Саюза. 1418 дзён і начэй бушаваў вогненны смерч на прасторах нашай Радзімы. Мільёны савецкіх людзей загінулі ў кровапралітных бітвах, пад пятой акупантаў, у пякельным полымі канцлагераў, ад цяжкасцей і галечы. Страты, панесеныя нашым народам у той вайне, такія вялікія, што памяць аб іх захаваецца ў свядомасці ўсіх сумленных людзей планеты на стагоддзі.

22 чэрвеня 1996 года Беларусь прысвеціць памяці аб ахвярах нацызму. У гэты дзень у Брэсцкай крэпасці, у Хатыні, у гарадах і вёсках рэспублікі на тысячах салдацкіх магіл цяпер жывучыя паклоняцца праху загінуўшых у самай жорсткай з усіх войнаў на Зямлі. У гэтых сумных цырымоніях, акрамя смутку, будуць выказаны і пратэст супраць насілля, і воля нашага народа да міру.

Разам з тым нацыяналістычныя сілы, што накіроўваюцца з-за мяжы і з'яўляюцца па сутнасці справы прамымі нашчадкамі калабарацыяністаў і паліцаяў, зноў, як і ў жалобны для ўсёй Беларусі дзень дзесятай гадавіны чарнобыльскай катастрофы, імкнуцца выкарыстаць трагічную дату пачатку Вялікай Айчыннай вайны для дэстабілізацыі грамадска-палітычнага становішча ў сталіцы рэспублікі. 22 чэрвеня ў горадзе-герoі Мінску імі рыхтуецца кашчунскае шэсце пад прафашысцкімі сімваламі і антыдзяржаўнымі лозунгамі. Мэты іх гранічна ясныя: расколоць грамадства, справакаваць масавыя беспарадкі, арганізаваць чарговае сутыкненне баевікоў-экстрэмістаў з праваахоўнымі органамі, прывіць беларускай моладзі бацылу «карычневай чумы».

Мы звяртаемся да ўсіх грамадзян рэспублікі, незалежна ад іх поглядаў і перакананняў, з заклікам не паддавацца на авантуры і правакацыі палітычных спекулянтаў, праявіць уласцівыя нашаму народу разважлівасць, вытрымку і мудрасць.

Камуністы перакананы, што дзень 22 чэрвеня 1996 года павінен стаць для Беларусі днём усеагульнага смутку, народнага яднання і грамадзянскага міру. Гэта наш абавязак перад памяццю мільёнаў суайчыннікаў, якія загінулі за свабоду і незалежнасць Айчыны!

**Бюро Цэнтральнага Камітэта ПКБ,
Фракцыя дэпутатаў-камуністаў
Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## 22 чэрвеня ў Мінску пройдзе санкцыяніраваная акцыя супраць фашызму і таталітарызму

19 чэрвеня прадстаўнікі грамадскага камітэта акцыі «Народ супраць фашызму і таталітарызму» паведамілі журналістам падрабязнасці планаемага на 22 чэрвеня шэсця і мітынгу, прысвечаных 55-й гадавіне пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Як было зазначана, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт разгледзеў заяўку аргкамітэта і з некаторымі зменамі дазволіў правядзенне акцыі. Як паведаміў Станіслаў Гусак, маршрут шэсця пакуль удакладняецца. Па стану на абед 19 чэрвеня было дазволена правесці шэсце ад помніка Янкі Купалы да абеліска Перамогі ў Мінску. Першай пройдзе калона ветэранаў з чырвонымі сцягамі, а другой — калона ветэранаў і актывістаў незалежніцкіх грамадскіх арганізацый, якія і прадстаўлены ў названым аргкамітэце антыфашысцкай акцыі. Пачатак плануецца на 11 гадзін. Пасля ўскладання вянкоў да абеліска Перамогі калона павінна збочыць і прайсці да опернага тэатра, дзе адбудзецца мітынг. Частка людзей адбудзе на вуліцу Мельнікайтэ, каб ускласці вянкі да помнікаў ахвяр гета. Паводле слоў Станіслава Гусака, мінскі мэр Ярмошын гарантуе, што сілы аховы праваапарадку не дапусцяць сутыкнення дзвюх калон з рознымі сцягамі. Сустаршыня Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў вядомы паэт Артур Вольскі зазначыў, што 22 чэрвеня ён і яго калегі выйдуць пад тымі сцягамі, якія ім бліжэй, з боку гарадскіх уладаў няма пярэчанняў на выкарыстанне бела-чырвона-белай сімволікі. Артур Вольскі адзначыў як пазітыўны факт, што ўпершыню ўдалося дасягнуць паразумення з гарадскімі ўладамі, на яго думку, гэта сведчыць пра станоўчыя змены, якія адбываюцца ў нашым жыцці.

Выконваючы абавязкі старшыні Беларускага народнага фронту Лявон Баршчэўскі зазначыў, што многія актывісты БНФ выказалі жаданне прыняць удзел у гэтай акцыі ў трагічную для нашага народа дату. Паводле яго слоў, БНФ выкарыстае ўсе свае арганізацыйныя магчымасці, каб забяспечыць парадак, не дапусціць магчымых сутыкненняў і правакацый. Паводле яго слоў, за акцыяй будуць назіраць прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацый. Лявон Баршчэўскі падкрэсліў, што гэтая акцыя накіравана супраць рэцыдываў фашызму і таталітарызму ў нашым грамадстве ў любым іх праяўленні. «Гэта акцыя, якая павінна прымусіць нашых людзей задумацца і быць пільнымі». На думку арганізатараў гэтай акцыі, у ёй павінна прыняць удзел ад 10 да 15 тысяч чалавек.

**Валер КА[illegible]ЎСКІ.**

## АБ ІНДЭКСЕ СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН ЗА МАЙ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў маі 1996 года ў параўнанні з красавіком 1996 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 100,6 працэнта.

У параўнанні са снежнем 1995 года індэкс спажывецкіх цэн склаў 114,4 працэнта.

### КАМЕНТАРЫЙ да паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь аб індэксе спажывецкіх цэн за май 1996 года

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за май 1996 года Міністэрства працы паведамляе, што, паколькі індэкс спажывецкіх цэн у маі бягучага года не перавысіў пяціпрацэнтнага парога (100,6 працэнта), грашовыя даходы насельніцтва за май, што атрымліваюцца з бюджэтных крыніц (сацыяльныя пенсіі, дапамогі, стыпендыі, заработная плата і грашовае забеспячэнне), індэксуюцца на 6,1 працэнта. Указаны індэкс разлічаны нарастаючым вынікам да базавага месяца (студзень 1996 г.) і захоўваецца на ўвесь перыяд да чарговага перавышэння пяціпрацэнтнага парога.

Індэксацыя ажыццяўляецца з прымяненнем пераменнай шкалы нарматываў індэксацыі на кожны працэнт прыросту спажывецкіх цэн для розных частак даходу:

у межах 200.000 рублёў — 1 працэнт,

ад 200.001 да 400.000 рублёў — 0,5 працэнта.

Частка даходу, што перавышае 400.000 рублёў, не індэксуецца.

Грашовыя кампенсацыі, прадугледжаныя пастановамі Кабінета Міністраў ад 5 студзеня 1995 года № 7 «Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і матэрыяльнай падтрымцы асобных катэгорый грамадзян» і ад 28 лютага 1995 года № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва», не індэксуюцца.

Насельніцтву, якое атрымлівае даходы з іншых крыніц, пакрыццё страт ад інфляцыі ажыццяўляецца на падставах, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Пры гэтым выплаты кампенсацыі ўрону, нанесенага калецтвам ці іншым пашкоджаннем здароўя, звязаным з выкананнем працоўных абавязкаў, індэксуюцца асобна ад іншых даходаў, незалежна ад таго, прадугледжана або не прадугледжана такое палажэнне ў калектыўным дагаворы (пагадненні).

### АБ ПАМЕРЫ ЎТРЫМАННЯ З НАЙМАЛЬНІКАЎ СРОДКАЎ ДЛЯ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ СВОЕЧАСОВАЙ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

У сувязі з апублікаваннем за май 1996 года індэкса спажывецкіх цэн Міністэрства працы і Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляюць.

У маі мінімальны спажывецкі бюджэт на аднаго члена сям'і з чатырох чалавек склаў 1.063.907 (1.057.562 x 1,006) рублёў у месяц.

Згодна з пастановай Мінпрацы і Мінстата ад 22.02.1996 г. № 13/4, для забеспячэння своечасовай выплаты заработнай платы неабходна ўтрымліваць з наймальнікаў суму ў памеры 60 працэнтаў МСБ, гэта значыць 638.340 рублёў на кожнага работніка (1063907 x 60 : 100).

Указаны нарматыў прымяняецца з дня апублікавання ў друку пры падачы заяўкі для атрымання сродкаў на заработную плату і пагашэння яе запазычанасці незалежна ад тэрмінаў утварэння.

### АБ ІНДЭКСЕ ЦЭН ВЫТВОРЦАЎ ПРАДУКЦЫІ ВЫТВОРЧА-ТЭХНІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ЗА МАЙ 1996 ГОДА

Міністэрства статыстыкі і аналізу паведамляе, што ў маі 1996 года ў параўнанні з красавіком 1996 года індэкс цэн вытворцаў прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння склаў 100,7 працэнта, у параўнанні са снежнем 1994 года — 229,6 працэнта, са снежнем 1995 года — 107,1 працэнта.

